20 кастрычніка 1994 г.
Чацвер
№ 112 (13829)
Кошт у розніцу 25 рублёў
Выдаецца з 1921 года



# БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА
# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*



## Кур'ер "ЧЗ"

### ПРА ІНДЭКС СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН

*Дзяржаўны камітэт па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў верасні ў параўнанні са жніўнем 1994 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 125,5 працэнта, у адносінах да моманту папярэдняй індэксацыі — 192,5 працэнта. У параўнанні са снежнем 1993 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 8,9 раза.*

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за верасень 1994 года Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што грашовыя даходы насельніцтва за верасень, якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата і грашовае забеспячэнне) індэксуюцца на індэкс спажывецкіх цэн, вылічаны нарастаючым падрахункам да ліпеня бягучага года — 192,5 працэнта (1,534 х 1,255 х 100), з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт росту індэкса спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 20 000 рублёў — 1 працэнт;
ад 20 001 да 40 000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, якая перавышае 40 000 рублёў, не індэксуецца.

Выплаты па кампенсацыі ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца асобна ад іншых даходаў, незалежна ад таго, прадугледжана або не прадугледжана такое палажэнне ў калектыўным дагаворы (пагадненні).

Грашовая кампенсацыя ў сувязі з увядзеннем свабодных цэн на хлеб, малако і малочныя прадукты, дзіцячае харчаванне, устаноўленая пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 жніўня 1994 года № 3 "Аб мерах па аказанню фінансавай падтрымкі асобным катэгорыям грамадзян", індэксацыі не падлягае.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца на падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

### ВУЧЭННІ НА ІГНАЛІНСКАЙ АЭС

*Як паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны Беларусі, 20—21 кастрычніка ў Літоўскай Рэспубліцы будзе праведзена вучэнне органаў кіравання і камісій па экстрэмальных сітуацыях.*

Нашы суседзі плануюць адпрацаваць тэму "арганізацыі аховы жыхароў і лакалізацыя вынікаў у выпадку аварыі на Ігналінскай атамнай электрастанцыі".

### А ДЗЕ ТВАЕ КАРАНІ?

*Вяртанне да сваіх каранёў стала своеасаблівай прыкметай і асаблівасцю нашага часу. Днямі ў нашай рэспубліцы афіцыйна зарэгістравана Беларускае генеалагічнае таварыства.*

Яно фактычна з'яўляецца першым грамадскім фарміраваннем, якое ўзялося дапамагчы тым, хто адчувае неабходнасць даведацца пра вытокі свайго роду.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ГАНДЛЮЕМ... КАМЕНЕМ

*Каля трох дзесяцігоддзяў вядзецца здабыча граніту на радовішчы ля вёскі Глушкевічы.*

Яно — адзінае ў рэспубліцы, дзе крышталічны фундамент выходзіць на паверхню і мае досыць высокую эфектыўнасць выпрацоўкі. Да таго ж мясцовы камень валодае выдатнымі будаўнічымі якасцямі, нездарма ён выкарыстоўваецца на аддзелцы станцый Мінскага метро.

Пра гэта даўно ведаюць не толькі ў блізкім, але і ў далёкім замежжы. Па ўзгадненню паміж кіраўніцтвам сумеснага італа-аўстрыйска-германскага прадпрыемства і Мікашэвіцкага каменеперапрацоўчага завода ў кар'еры "Глушкевічы" нядаўна завершаны мантаж каменедрабільнага абсталявання коштам каля аднаго мільёна даляраў. У верасні ўжо адгружана першая партыя — 20 тон — у Германію.

Дары палескіх нетраў прывабліваюць і іншых кампаньёнаў. Не так даўно вёску наведалі дарожнікі з Даніі. Ёсць таксама заяўкі з Расіі і Латвіі.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

### ХТО СКАЗАЎ, ШТО Ў НАС ДЭФІЦЫТ ЭНЕРГАНОСЬБІТАЎ?

*У адваротным можна было пераканацца ўчора, наведаўшы сталічны мікрараён "Паўднёвы Захад", а дакладней, праспект Любімава, дзе яшчэ ў 10 гадзін раніцы гарэла "начное" вулічнае асвятленне.*

Дарэчы, такія выпадкі, калі мясцовыя службы дарэмна асвятляюць вуліцу ледзь ці не да абеду, тут нярэдкія. Ці не занадта дарагое задавальненне ў наш час, тым больш, што адначасова мясцовыя жыхары часцяком вымушаны сядзець без электрычнасці ў кватэрах з-за шматлікіх пашкоджанняў электрычнай сеткі?

**Павел МЯГКОЎ.**

### УНІВЕРСІТЭТ РЫХТУЕЦЦА ДА... АВАРЫІ

*У Полацкім дзяржаўным універсітэце адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на тэму: "Як засцерагчыся ад аварыі на нафтахімічнай вытворчасці і як змагацца з наступствамі такой аварыі."*

Канферэнцыя дала вычарпальныя рэкамендацыі па гэтай тэме. І добра. Кажуць, беражонага Бог беражэ. А хімія, як вядома, у Полацку і Наваполацку даволі капрызная. Дарэчы, наваполацкія вучоныя распрацавалі сістэму ачысткі вады ад прымесей нафтапрадуктаў.

**Уладзімір МІХНО.**

### СМЯРОТНЫЯ ЛІЧБЫ

*У Беларусі зарэгістраваны 104 выпадкі ВІЧ-інфекцыі, 7 чалавек ужо памерла. Больш за ўсё хворых — 74 чалавекі — зарэгістравана ў Мінску.*

Узрост носьбітаў інфекцыі ад 20 да 29 гадоў, сярод заражаных таксама 6 дзяцей ва ўзросце да 1 года. Прычыны заражэння — гомасексуальныя кантакты, сумесны ўвод наркотыкаў, унутрывантробная інфекцыя. Нагадаем, што на сённяшні дзень ва ўсім свеце адзінай абаронай ад віруса СНІД застаецца прафілактыка.

**Ганна МАСЛЯКОВА.**

### Курсы валют на 19 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5705 | 5950 | 3749 | 3950 |
| "Алімп" | 5650 | 5580 | 3480 | 3577 |
| "Дукат" | 5800 | 6300 | 3700 | 4100 |




Фота Сяргея МІКАЛАЕВА.

## "ПАС" — ПАЛІТЫКА-АНАЛІТЫЧНАЯ СЛУЖБА

# Пад восеньскай зоркай

*У Авальнай зале беларускі парламент працягвае на гэтым тыдні пленарныя пасяджэнні. Пасля адабрэння прэзідэнцкай праграмы эканамічнага рэнесансу і згоды з частковай ліквідацыяй савецкай сістэмы ўлады дэпутацкі корпус павольна ўвайшоў у сваю сапраўды апошнюю восень.*

Тыдзень распачаўся неардынарным выступленнем прэзідэнта. Акрамя аналізу сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў ім прагучала прыемнае для насельніцтва паведамленне аб павелічэнні ў два разы мінімальнай заработнай платы. Адметна, што падпісаны ў панядзелак адпаведны ўказ прыйшоўся на зноў-такі апошні тыдзень перад заканчэннем ста дзён пасля інаўгурацыі. Аляксандр Лукашэнка, як ніхто, разумее ўразлівасць такога кроку, бо самая грунтоўная эканамічная матывацыя неабходнасці хай і часовага падняцця планкі жыццёвага ўзроўню найбольш збяднелых слаёў грамадства хутчэй за ўсё не вытрымае выпрабавання на трываласць. Цэнавыя скачкі, якія чакаюцца ў бліжэйшай будучыні, не падпарадкоўваюцца слоўным прагнозам, нават зыходзячым з прэзідэнцкіх вуснаў. Тым не менш, у прамове на сесіі Аляксандр Рыгоравіч паспрабаваў апярэдзіць крытыкаў справа і злева, хаця тыя, безумоўна, ніяк не спыняць прыведзеныя аргументы. Паколькі датэрміновай змены парламента не прадбачыцца, многія крытычныя стрэлы ляцяць цяпер і паляцяць надалей у напрамку прэзідэнцкага (не заўсёды занятага) крэсла менавіта ў Авальнай зале. Між тым, парламентарыі пакуль не страчваюць статычнай важкасці і займаюцца даволі руціннай работай, разглядаючы планавыя пытанні. Бадай, толькі праблема развіцця інфармацыйнай прасторы, дакладней, дзейнасці міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір" стала "момантам ісціны" і выклікала неадназначную рэакцыю. Пагадненне, прапанаванае дэпутатам, засталося нератыфікаваным ("за" — 157 галасоў). Такі ход дыскусіі пасеяў у прадстаўнікоў СМІ сумненне ва ўяўнасці інфармацыйнай ізаляцыі рэспублікі. Калі падобныя апасенні з парадку прагназуемых, даволі адчувальная ізаляцыя Беларусі з боку той жа Расіі не з'яўляюцца сакрэтам. Значная частка расійскіх друкаваных выданняў стала недаступнай у нас, пад час прамога астанкінскага эфіру беларускі прэзідэнт адзначыў, што і ён атрымлівае маскоўскую прэсу(калі атрымлівае) са спазненнем на дні. Увогуле, расійская тэма, як і праблематыка Садружнасці, калі не прэваліравала на рынку навін у пачатку тыдня, дык займала адзін з першых радкоў у блоках інфармацыі. Яна, дарэчы, выйдзе і на першае месца,бо ў пятніцу чакаецца сустрэча ў Маскве лідэраў былых рэспублік Саюза. Мабыць яшчэ і таму прыбыццё ў Мінск парламенцкай дэлегацыі расіян нібыта мела сімвалічны змест. Але пра гэта крыху ніжэй, спачатку скажам, што рэспубліканскі парламент у панядзелак ратыфікаваў пагадненні аб гандлёвых адносінах з Узбекістанам і Малдовай, аб першачарговых мерах па абароне ахвяр узброеных канфліктаў, дзяржаўнай, сацыяльнай дапамозе членам сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі ў Афганістане і іншых дзяржавах, дзе вяліся баявыя дзеянні, разгледзеў шэраг іншых дакументаў.

Аўторак можна назваць парламенцкім "міжнародным днём". Перад нашымі парламентарыямі выступіў кіраўнік дэлегацыі Савета Федэрацыі Расіі, старшыня Камітэта па бюджэту, фінансаваму, валютнаму і крэдытнаму рэгуляванню, грашовай эмісіі, падатковай палітыцы і мытнаму рэгуляванню верхняй палаты Федэральнага Сходу Мікалай Ганчар. Ён, у прыватнасці, сказаў пра бясспрэчнае: "Працэс эканамічнай інтэграцыі ў дзяржавах Садружнасці ідзе нездавальняюча ...Прычыны мы бачым у адсутнасці механізма і ў сувязі з гэтым звяртаемся да парламентарыяў Украіны, Казахстана і Беларусі з прапановамі па яго прапрацоўцы". Расія звязвае надзеі на эканамічную інтэграцыю са стварэннем законаў, якія карэспандуюцца і "здольны ў кожнай з дзяржаў стварыць адэкватнае прававое поле". У Вярхоўным Савеце, потым на прэс-канферэнцыі М.Ганчар падкрэсліваў: "Эканамічная інтэграцыя ні ў якой меры не пагражае суверэнітэту дзяржаў і ў той жа час суверэнітэт не павінен з'яўляцца перашкодай да ўзаемадзеяння". Яшчэ цытата: "Інтэграцыя ў рамках СНД — жыццёвы інтарэс Расіі, прычым мы прымаем толькі схему індустрыяльнай эканомікі, але не сыравіннай". Цікава, што ў той самы дзень Аляксандр Лукашэнка, выступаючы перад ветэранамі вайны ў спецыялізаваным шпіталі, у сваю чаргу выказаўся за інтэграцыю "знізу". Усе сённяшнія размовы пра аднаўленне СССР, новыя федэрацыі, канфедэрацыі, зазначыў ён, застануцца толькі размовамі, трэба наноў будаваць агульную жыццёвую прастору знізу, ад эканомікі, а потым заканамерна паўстане пытанне і перад палітыкамі: у якіх формах аб'ядноўвацца. Завяршаючы "міжнародную" тэму, скажам пра візіт у Мінск дэлегацыі польскага сейма на чале са старшынёй польска-беларускага парламенцкага калектыву Тадэвушам Славэцкім. Яе прадставіў у Вярхоўным Савеце Мечаслаў Грыб.

Між тым маючай адбыцца сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД у Маскве прысвяціў немалую частку часу свайго брыфінгу начальнік Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута. На парадку дня маскоўскага саміта 11 пытанняў. У тым ліку аб стварэнні міждзяржаўнага эканамічнага камітэта, эканамічнага саюза СНД, плацежнага саюза, плануецца да разгляду і прапанова прэзідэнта Казахстана Н.Назарбаева па фарміраванню Еўразійскага Саюза. Наколькі яна жыццяздольная ў сённяшніх варунках? Цяжка сказаць, пачакаем да пятніцы. А.Фядута таксама праінфармаваў: Аляксандр Лукашэнка прапанаваў парламенту разгледзець 25 пытанняў з мэтай прыняцця заканадаўчых актаў, накіраваных на рэалізацыю вядомай праграмы. У прыватнасці, унесці змяненні і дапаўненні ў Закон аб дзяржаўным бюджэце на бягучы год, аб банкаўскай дзейнасці, часовым парадку валютнага рэгулявання і г.д. Як бачым, парламентарыяў чакае напружаны рабочы графік і надалей. А пакуль яны працуюць згодна з рэгламентам.

У аўторак быў разгледжаны праект закона "Аб патэнтах на карысныя мадэлі". Гэты законапраект абараняе аўтарскія правы і ў перспектыве разлічаны на захаванне інтэлектуальнай уласнасці. Праблема ўласнасці матэрыяльнай стала галоўнай пры разглядзе ў другім чытанні праекта Закона "Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці ў Рэспубліцы Беларусь", які прадставіў старшыня пастаяннай камісіі Леанід Козік. Не пашанцавала іншаму дакументу — законапраекту "Аб статусе Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы, асоб, узнагароджаных ордэнамі Славы трох ступеняў". Ён адпраўлены на дапрацоўку ў камісію па справах ветэранаў і інвалідаў. З разгляду ў аўторак было знята пытанне аб дапаўненні ў часовы парадак валютнага рэгулявання і правядзення валютных аперацый, што можна трактаваць неадназначна з улікам узаемаадносін паміж галінамі ўлады. Варта адзначыць і такое рашэнне: парламент вызваліў прадпрыемствы ад выплаты падаткаў па тавараабменных аперацыях з каштоўнымі металамі. Учора з раніцы нестатычнай фігурай у парламенце быў галоўны банкір Станіслаў Багданкевіч, бо вырашаліся вельмі важныя пытанні: аб плацежных сродках Рэспублікі Беларусь і аб межах крэдытнай эмісіі. У выніку дыскусіі цалкам прынята пастанова "Аб плацежных сродках Рэспублікі Беларусь". Нацыянальнаму банку створаны прававы калідор для прыняцця мер па стабілізацыі беларускага рубля, парламенцкае рашэнне можна разглядаць і як першы крок да ўвядзення нацыянальнай валюты. На дзённым пасяджэнні працягвалася абмеркаванне пытання аб крэдытнай эмісіі.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Ларыса ДУДАРУК,
ЛюдмілаКАХАВЕЦ,
рэдактар
НаталляВАЛАКІДА.

### "Суперчэннэл"

#### ІРАК ПРЫЗНАЎ КУВЕЙТ

*На пасяджэнні Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку Ірак выступіў з заявай аб прызнанні суверэнітэту і граніц Кувейта.*

У Багдадзе ў гэты час адбылося пасяджэнне парламента, дзе таксама разглядалася пытанне аб прызнанні суверэнітэту Кувейта.

#### ПАЙШЛІ НА КАМПРАМІС

*Мірнае пагадненне заключана паміж Ізраілем і Іарданіяй.*

Кіраўнікі дзвюх дзяржаў, нарэшце, прыйшлі да кампрамісу па пытаннях водных граніц. Афіцыйнае пагадненне паміж дзяржавамі будзе падпісана на наступным тыдні.

### "Еўраньюс"

#### АТАМ ПАД КАНТРОЛЕМ

*ЗША і Паўночная Карэя нарэшце дасягнулі пагаднення па пытанню атамнага кантролю.*

Прадстаўнік ЗША паведаміў, што міжнародная арганізацыя па даследаванню атамнай энергіі мае цяпер магчымасць прадпрымаць усе санкцыі, якія датычаць кантролю за выкарыстаннем атама Паўночнай Карэяй.

#### ДЫВЕРСІЯ Ў ТЭЛЬ-АВІВЕ

*Сама меней 10 чалавек было забіта ў выніку выбуху ў Тэль-Авіве.*

Тэрарысты кінулі выбуховае ўстройства пад аўтобус. У выніку былі забіты прахожыя, пашкоджаны пабудовы. Прэм'ер-міністр Рабін абвінавачвае ў злачынстве палесцінскую тэрарыстычную арганізацыю, якая выступае супраць мірнага пагаднення, нядаўна падпісанага паміж Ізраілем і Іарданіяй.

### "Уорлднэт"

#### НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ХАЛЕРУ

*У Стамбул на сустрэчу паехалі вядучыя палітыкі Турцыі і прэзідэнты з пяці рэспублік былога Савецкага Саюза, якія граніцаць з Турцыяй.*

Мэта сустрэчы — падпісанне стамбульскай дэкларацыі аб супрацоўніцтве, наладжванні паміж гэтымі дзяржавамі палітычных, эканамічных і культурных сувязяў.

#### ПАСЛЯ 6 ТЫДНЯЎ БЕЗУЛАДДЗЯ

*новым прэм'ер-міністрам Балгарыі стала 41-гадовая Рэната Інкава.*

Гэта першая жанчына — кіраўнік дзяржавы ў гісторыі Балгарыі.

### "TV-5"

#### "REEBOK" – АКТЫВІСТАМ РУХУ ЗА ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

*Чатыром актывістам інтэрнацыянальнага руху за правы чалавека з Гаіці, Бразіліі, Ліберыі і Непала кампанія "Reebok" прысудзіла ўзнагароды за поспехі ў барацьбе супраць ушчамлення свабоды і грамадзянскіх правоў.*

Р. Агюст з Гаіці, А. Алвес з Бразіліі, Д. Шодарэй з Непала і С. Вудз з Ліберыі атрымаюць свае ўзнагароды ў Бостане 7 снежня.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

